 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 51 (1243) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 23 СНЕЖНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.


З аўсёды, калі мне даводзіцца бачыць славутыя сакольскія тканіны — дываны, макаткі, дарожкі і іншыя вырабы, — мяне ўражваюць у іх дзве справы: арыгінальнае харастро і непраніклёная загадкавасць радаводу гэтай адной з самых старажытных на свеце тканіны. Вядома, уменне спалучаць колеры, узоры і формы ў непаўторнай прыгажосці цэласць — гэта вынік надзвычай тонкага пачуцця харастра, якімі валодаюць народныя ўмельцы, праяўленне іх прыродных мастацкіх талентаў. Але як вытлумачыць тое, што ўменне ткаць падвойныя тканіны выступае ў нашыя часы толькі ў двух процілеглых ад сябе месцах на зямной кулі: сярод некалькіх індзейскіх плямёнаў Сярэдняй Амерыкі і ў народаў каля Балтыйскага мора? А пры гэтым, каб загадка была яшчэ больш таямнічай, шведскія народныя ткачыхі называюць гэтую тканіну не інакш як — „руская тканіна“!

Дагэтуль лічылася, што самым жывым і найбольшым цэнтрам вырабу падвойных тканін на свеце з'яўляецца якраз наша Сакольшчына, а дакладней — мястэчка Янаў і яго ваколіцы. Аднак, калі ў лютым 1979 года Міністэрства культуры і мастацтва, ЦэПэЛіА, Беластоцкае таварыства культуры і Акруговы музей у Беластоку аб'явілі конкурс на падвойную тканіну, яго плён пераўзышоў усялякія спадзяванні. Заданнем конкурсу было: заахвоціць народных умельцаў паўночна-ўсходняй Польшчы працягваць колішнія традыцыі і развіваць выраб падвойных тканін, папулярызаваць іх мастацкія каштоўнасці, адкрываць новых умельцаў, выявіць для ЦэПэЛіА і музея новыя арыгінальныя ўзоры і гатовыя тканіны для пакупкі. На конкурс 66 народных умельцаў прадставіла 130 тканін! Пры тым з Беластоцкага ваяводства 47 удзельнікаў конкурсу дало 94 тканіны, з Ломжынскага 7 удзельнікаў — 14 тканін, з Сувальскага 6 удзельнікаў — 11 тканін, з Астраленцкага 3 удзельнікі — 6 тканін, з Сядлецкага 3 удзельнікі — 5 тканін. Цікава, што сярод конкурсных прац ёсць дываны Рэгіны Масэлбас з вёскі Васілёўкі каля Янава і Раймунда Складаноўскага з вёскі Туманкі каля Вышкава над Бугам Астраленцкага ваяводства, васьмідзесяцігадовай Дамінікі Буйноўскай з Бернграва ў Сядлецкім ваяводстве і васемнаццацігадовай Монікі Януцкай з Янава. З гэтага відаць,


*Падвойныя дываны: уверсе Монікі Януцкай з Габрылеўшчыны гміны Янаў, унізе на лаўцы — Бернарды Росць з Шацілаўкі гміны Карыцін.*

# ШТО МОЖНА ВЫТКАЦЬ?


*Дыван Ядвігі Ляскоўскай з в. Ломы гм. Бомбля (III ўзнагарода).*

што абсяг вырабу падвойных тканін даволі вялікі і выразна відаць яго далейшае расшырэнне. А калі іх тканнем займаюцца і маладыя і старыя, жанчыны і мужчыны — тады ёсць падставы гаварыць пра праўдзівейшае адраджэнне падвойнай тканіны.

З прадстаўленых на конкурс прац журы выбрала некалькі дзесяткаў самых цікавых, і Беластоцкі акруговы музей зрабіў у пяці залах Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку (вул. Варшаўская 37) вялікую выстаўку іх. Узнагароджаных тканін было многа, аж некалькі дзесяткаў! Дзве раўназначныя першыя ўзнагароды заваявалі **Рэгіна Масэлбас і Раймунд Складаноўскі.** Затрымоўваюся перад дыванам Р. Масэлбас. На абрамленым далікатным матывам, у якім заўважаюццаператрансфармаваныя раслінныя элементы, цёмна-сінім фоне цагліастага колеру невялікія вострапаканечныя фігуркі. Нязжка разгадаць, што народная мастачка вычаравала тут халодную бездань неба з палаючымі ў ёй далёкімі зоркамі. Р. Складаноўскі на сакавітай зялёнай плошчы рассыпаў дробныя бардовыя пункты. Відаць, ткач-мастак даў волю тут сваім пачуццям і прадставіў луг цудоўны, усыпаны ірдзістым квеццем. І так можна было б чытаць усе працы, а кожная з іх запісана іншым апавяданнем. Запоўнены абшар вінаградными гронкамі і лісцем, бадай, адлюстроўвае пажаданне багацця і шчасця ў жыцці, птушачкамі-салавейкамі — радасці і весялосці.

Многа вялікіх малюнкаў з жыцця народных майстроў і іх суседзяў. На дыване Л. Рагалеўскай — вясковы падворак з хатай, студняй, сабачай будкай, сабакам на ланцужку, пасекай, стадкам быдла, гуртам авечак, самой гаспадыняй з кошычкам у руцэ і гаспадаром з граблямі за плячыма, а ўсё гэта вакол абведзена плоцікам акуратненькім, цераз яго перахіляюцца дрэўцы садовыя — не інакш: яблынькі, ігрушкі, сліўкі. У М. Януцкай і Р. Пузаноўскай на дыванах прадстаўлены вясельныя карагоды з маладой парай, музыкамі з гармонікамі, скрыпкамі і бубнамі, вазамі густа ўтыканымі смяючыміся ці спяваючымі вясельнікамі ў капялюшах, разбрыканымі конямі і вакол пышным садам-вінаградам. У Ф. Круповіч на дыване — працы ў полі: ратаі з плугамі і баронамі, сеўцы з сявенькамі, трактарысты на гонкіх трактарах, а ўсё гэта абсаджана кветкамі, на якіх гушкаюцца рассяваныя птушкі-салавейчыкі. З іх тхне душэўнай раўнавагай і жыццёвым аптымізмам, сельскім спакоем. Але побач з імі знаходзяцца і такія, што выказваюць нейкія бурлівыя перажыванні і душэўныя парывы. Так на дыване С. Карнай па густым кашлатым лесе ў розныя бакі імчацца чароды птушак-зданняў. Усё гэта нагадвае ней-

(Працяг на стар. 4)

# ХРОНІКА

■ Справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Саколцы адбыўся 30 лістапада з удзелам намесніка старшыні ГП БГКТ Георгія Валкавыцкага. Пасля абмяркоўкі дзейнасці гуртка прысутныя выбралі праўленне з наступных асоб: старшыня — Аляксандр Юргель, намеснік старшыні — Яўген Аўгустынчык, скарбнік — Ірэна Андрацкая, члены праўлення — Аляксандр Рафаловіч і Ларыса Купрыянюк.

■ У склад праўлення ў Крушынянах (гміна Крынкі) увайшлі: Мар'ян Кахаaccount—старшыня, Ева Паплаўская — намеснік старшыні, Нікодым Макаль — сакратар, Аляксандр Паплаўскі — скарбнік. Ад імя ГП сход абслугоўвалі Міхась Шаховіч — журналіст „Нівы“ і Марыя Максімюк — інспектар ГП БГКТ.

■ На апошнім сваім сходзе праўленне гуртка БГКТ у Беластоку стварыла дзесяціасабовую арганізацыйную камісію да падрыхтоўкі навагодняга балю. Узначаліў яе член праўлення гуртка — Кастусь Масальскі.

■ 5 снежня сабраліся на справаздачна-выбарны сход члены гуртка БГКТ у беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Гурток гэты складаецца з навучэнцаў і настаўнікаў ліцэя. Налічвае ён 129 асоб. Пасля справаздачнага даклада, які быў прадстаўлены настаўнікам Аляксандрам Іванюком, прысутныя застанаўляліся над формамі далейшай дзейнасці. У дыскусіі было падкрэслена, што ў культурнай дзейнасці трэба выкарыстоўваць клуб БГКТ, які знаходзіцца па-суседску са школай. Звярталі ўвагу таксама на той факт, што створаны ў мінулым годзе вакальны калектыў у бягучым годзе будзе мець большую прафесіянальную дапамогу. Ліцэісты абавязаліся дапамагчы правесці справаздачна-выбарныя сходы ў гуртках БГКТ у тых вёсках, з якіх яны паходзяць. 63 навучэнцы ліцэя падпісалі на гэтым сходзе членскія дэкларацыі БГКТ. У склад новага праўлення выбраны: Аліна Юшкевіч — старшыня, Альжбета Харкевіч — намеснік старшыні, Галена Раманчук — сакратар, Галіна Койла — скарбнік, члены праўлення — Дзмітры Тыханюк і Яўгенія Пятрышык. Дэлегатамі на з'езд БГКТ выбраны: дырэктар ліцэя Уладзімір Сцепанюк і навучэнцы ліцэя Аліна Юшкевіч і Альжбета Харкевіч. У гэтым сходзе ўзяў удзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

■ 6 снежня на справаздачна-выбарным сходзе ў Ласінцы (гміна Нарва) нашы сябры гаварылі аб патрэбе ў іх вёсцы стварэння мастацкага калектыву, аб неабходнасці арганізавання прыездаў у Ласінку харавых і тэатральных калектываў з беларускім рэпертуарам. На сходзе падпісала членскія дэкларацыі 19 асоб. У новавыбранае праўленне

(Працяг на стар. 2)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79


*Анна Стахіюк з Трасцянкі — трэцяе месца ў катэгорыі фальклорнай песні.*

*Фота Я. Целушэцкага.*

 




(Працяг са стар. 1)

## ХРОНІКА

гуртка ўвайшлі: Аліцыя Станька — старшыня і дэлегат на з'езд, Мікалай Раманюк — намеснік старшыні, Сцяпан Паскробка — сакратар, Аляксандр Пашко — скарбнік. Сход абслужыла інспектар ГП БГКТ Анна Ляшкевіч.

■ У Гарадзіску (гміна Нарва) бэгэкатоўцы дамагаліся часцейшых прыездаў у іх вёску прадстаўнікоў ГП БГКТ, і часцейшых спатканняў з літаратарамі з клуба „Белавежа". 25 асоб выказала жаданне ўступіць у рады БГКТ. Яны падпісалі членскія дэкларацыі. Новае праўленне складаецца з наступных асоб: Пётр Давідзюк — старшыня, Марыя Мінько — намеснік старшыні, Аляксандр Мінько — сакратар, Галіна Мінько — скарбнік. Сход абслужыла інспектар ГП БГКТ Анна Ляшкевіч.

■ Міхалоўскі гурток БГКТ выбраў новае праўленне, у склад якога ўвайшлі: Уладзімір Палецкі — старшыня, Янка Палоцкі — намеснік старшыні, Ніна Тарасевіч сакратар, Антон Саковіч скарбнік і дэлегат на з'езд. У сходзе ўзяў удзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

■ 6 снежня адбыліся аўтарскія сустрэчы з Віктарам Шведам у Ласінцы ў школе і вясковым клубе і ў школе ў Нарве.

**М. Х.**

### КАЛЯНДАР

**455 гадоў назад**
24.12.1524 пам. Васка да Гама, партугальскі мараплавец.

**75 гадоў назад**
24.12.1904 нар. А. Дудар (сапр. Дайлідовіч), беларускі паэт.

**70 гадоў назад**
27.12.1909 нар. Г. Яблонскі, старшыня Савета Дзяржавы ПНР.

* * * * * * * * *

*25.12.1909 пецярбургская „Ніва", каментуючы першыя весткі аб саюзе балканскіх дзяржаў, пісала: Аб'яднанне Сербіі, Чарнагорыі і Балгарыі ў адзін саюз створыць на Балканах непарушную апору славянства, распараджаючайся маладой, патрыятычнай, дасканала ўзброенай арміяй у мільён штыкоў, якой поўнасцю дастаткова, каб цалкам паралізаваць ваеннае значэнне і ўсе агрэсіўныя намеры Аўстрыі.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 2160. Nakład 7.600 egz. S-2

## МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Калі сярод сучасных беларускіх мастакоў мяне да глыбіні душы ўзрушае ў Міхаіла Савіцкага яго майстэрскае выяўленне маральнай перамогі бездапаможнай ахвяры над усясільным злачынствам, у Уладзіміра Басалыгі — выраз душэўнай моцы чалавека, то ў **Віктара Маркаўца** захапляе ўсхваленне працавітасці як самай адметнай чалавечай уласцівасці. Пры тым В. Маркавец не імкнецца прадстаўляць у сваіх карцінах неабдымнага плёну дзейнасці рук чалавечых, ён паказвае толькі рукі. Далікатныя і звітныя ў дзяўчат, моцныя і ўмелыя ў юнака-музыкі, вузлаватыя і пакарэжаныя доўгімі дзесяцігоддзямі нялёгкай працы ў старэчы-бабулькі. Лёгкія і трапяткія, цяжкія і знявечаныя яны то трымаюць рамантычны вянок з рамонкаў, то датыкаюцца да гуллівых струн, то падпіраюць узараную маршчынамі шчаку, то ўрэшце бязвольна спачываюць на недалужных старэчых каленях.



*Віктар Маркавец.*
*Фота М. Гайдука.*

# Вытокі

Я ўчытваўся ў гатовыя ўжо або толькі пачатыя карціны, што В. Маркавец выцягваў з розных закуткаў майстэрні. Гэта была веснавая раніца. У вышэзныя вокны старой мінскай камяніцы на Нямізе напорыста лезла згорбленае ад цяжару квецця яблыневае голле, у майстэрню ўрываліся ашалелыя ад нектару пчолы. А ён углядаўся ў кожную сваю карціну з такой улюбёнасцю, якая ўласціва, здаецца, толькі селяніну, што лашчыць вокам уласны ўзараны загон, ці паэту, што ў тысячны ўжо раз перачытвае свой верш. І мне не давала спакою загадка, адкуль у Віктара Пятровіча такое захапленне, больш таго — абагатварэнне працавітасці.

— Паходжу я з настаўніцкай сям'і, — прыгадвае ён. — З пяці год цягалі мяне бацькі за сабою на розныя заняткі і працы з вучнямі. Найбольш жа круціўся я каля бацькі-дырэктара ў школьнай майстэрні тэхнічнага выхавання. А жылі мы спачатку на хутары каля Докшыц на Віцебшчыне. Пустка, ціш, спакой. Аднойчы зімою праз акно назіраў я зграю ваўкоў, што наведаліся на наш падворак. І гэта ж там упершыню ўбачыў я жывога праўдзівага мастака. З-за куста, затаіўшы дыханне, глядзеў я, як ён, седзячы на каменьчыку, робіць пэндзлікам нейкую замалёўку. Потым, калі мы пераехалі ў Докшыцы, і ўжо я хадзіў у пяты ці шосты клас, у нашай школе паявіўся малады настаўнік. Арганізаваў ён гурток жывапісу. Мы проста не вылазілі ад яго ні днём ні ноччу. Ён адкрыў нам свет! Выйдзем з ім, бывала, на ўрочышча Вытокі, дзе рэкі Вілія і Бярэзіна бяруць свой пачатак, і любуемся. Паверыце, у дзень мы малявалі па два эцюды, ад світанку і да цёмнай ночы не выпускалі з рук пэндзлікаў! Потым неслі ўсё гэта на выстаўку...

І далей магло б быць вельмі проста: сярэдняя і вышэйшая мастацкія школы, дыплом. Але аказалася, што В. Маркавец пасля пачатковай школы паступаў у мастацкае вучылішча ды не паступіў. Пайшоў вучыцца ў вячэрнюю школу для працуючых, а завочна займаўся ў народным універсітэце мастацтва ў Маскве, працаваў жа ў школе лабарантам: рыхтаваў матэрыял на тэхнічныя заняткі, рэчывы на хімічныя доследы, круціў кіно і т.п. Пасля заканчэння абедзвюх школ пайшоў настаўнічаць у сяло. Вучыў дзетак маляваць, а сам рыхтаваўся да экзаменаў у вышэйшую школу. У верасні 1965 г. ён ужо студэнт мастацкага факультэта Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, з немалым вопытам у працы, сотнямі карцін, эцюдаў, замалёвак, а было яму тады ўсяго дзевятнаццаць год! На дыплом на заканчэнне шасцігадовай навукі ён прадставіў карціну „Беларускія нафтавікі". Замалёўкі да яе рабіў з натуры на буравых вышках па ўсім беларускім нафтавым басейне. Працы не шкадаваў. І выйшла ў яго з-пад

Працяг на стар. 4



*В. Маркавец — „Свята ў Докшыцах".*



## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 23 XII** — 6.50 RTSS i TTR — Mat. 7.20 Biologia. 7.55 Nasze spotkania. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Studio Sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek oraz Tajemniczy Ogród. 10.20 Antena. 10.45 Pociągi i ludzie „Union Pacific" — franc. film dok. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.20 Poranek symfoniczny dedykowany dzieciom. 13.15 Piórkiem i węglem. 13.35 Na arenach świata — ameryk. film rozr. 15.10 Losowanie Dużego Lotka. 15.20 Helena i mężczyźni — franc. kom. fab. Wyk.: Ingrid Bergman, Jean Marais, Mel Ferrer i inni. 16.40 Tropami mitów — odc. VI „Spadkobiercy Minosa". 17.20 Dawne dobre czasy — cz. III — Music Hall. 18.10 Decydujący Front — Na Wschód — film dok. radz. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Strachy — odc. III pt. „Gdzie oczy poniosą". 21.50 Studio Sport. 22.05 Na estradach świata — Rafaella Carra i jej goście. 23.00 Z muzyką prze lata.

**Poniedziałek 24 XII** — 9.00 Timur i jego drużyna — cz. II — radz. film fab. 15.25 Program dnia. 15.30 Dziennik. 15.40 Człowiek, Ziemia, Kosmos — udział Polski w badaniach kosmicznych. 16.10 Pierwsza gwiazdka — baśń prod. norweskiej. 17.45 Poradnik dobrych obyczajów — Obyczaj wigilijny. 18.20 Kolęda. 18.25 Organy Polskie — film dok. 18.55 Kolęda. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV — Leon Schiller — Pastorałka. 22.15 Wielki walc — ameryk. film fab. 23.55 Znane kolędy w wykonaniu zespołu „Nowi Singers".

**Wtorek 25 XII** — 8.55 Program dnia. 9.00 Podwodne miasto kapitana Nemo — film przygodowy prod. ang. 10.40 Koncert Życzeń. 11.20 Architektura drewniana w Polsce — Karczmy drewniane. 11.40 Knajpa na Piatnickiej — radz. film fab. 13.05 Recital piosenkarski. 13.20 Studio Sport. 14.05 Recital piosenkarski. 14.20 O czym szumią strumiany — spektakl. Wyk: Ewa Wiśniewska, Wieńczysław Gliński, Krzysztof Kowalewski i inni. 15.15 Tele-Echo — wydanie specjalne. 16.15 Muzyka małego ekranu. 16.45 Wielka Włóczęga — kom. franc. 18.45 Recital piosenkarski. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Potop — cz. I — film fab. Wyk: D. Olbrychski, M. Braunek, T. Łomnicki, K. Wichniarz i inni. 23.20 Muzyka małego ekranu — cz. II. 24.00 Kino Nocne — Lola colt — włoski western.

**Środa 26 XII** — 9.00 Rakieta na księżyc — kom. kostiumowa ang. 10.40 Kulig — spektakl muz. 11.35 W Starym Kinie — Tarzan i zielona bogini — film ameryk. 12.50 Tylko w Niedzielę. 13.00 Turniej cukierników. 13.35 Pamiętnik zza kulis sceny — Barbara Ludwiżanka. 14.15 Reportaż filmowy. 14.35 Losowanie Małego Lotka. 14.45 Centkiewiczowie — film dok. 15.15 Egzamin — program publ. 16.00 Pamiętnik z prerii — ameryk. film fab. 17.20 Poczet żon królów i książąt polskich — Bona. 17.50 Śląska gra Bonę — rep. 18.10 Świąteczna rewia — pr. rozr. Olgi Lipińskiej. 18.50 Piosenki. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Tylko w Niedzielę — cd. „Potop" — cz. II. 22.55 Kabaret Starszych Panów — Kaloryferia. 23.40 Studio Sport. 23.50 Pamiętnik Piotra Skrzyneckiego — z cyklu „Piwnica pod Baranami".

**Czwartek 27 XII** — 9.00 Fred, pies i inni — film fab. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz III odc. filmu „Muszę ją ukryć". 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.25 Program Wojskowy. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Wariatka i Maigret — film z serii Komisarz Maigret — franc. film fab. 22.05 Pegaz. 22.50 Dziennik. 23.05 W minutę po premierze.

**Piątek 28 XII** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Pedagogika. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci: Kółko graniaste. 16.55 Magazyn Motoryzacyjny. 17.25 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.00 Saga rodu Rius — odc. X — hiszp. film tel. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Staroświecka komedia — radz. kom. fab. 22.05 Planeta Ziemia. 22.35 Dziennik. 22.50 Proscenium.

**Sobota 29 XII** — 12.45 Program dnia. 12.50 Radzimy rolnikom. 13.00 Obiektyw. 13.20 Dziennik. 13.30 Orbita. 14.00 Studio — 2. 18.50 Wyst. ambasadora Kuby. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Studio — 2. — „Znikający punkt" — angielsko-ameryk. film fab. Wyk: Barry Newman, Dean Jegger i inni. 22.10 Kino Nocne — „Niebezpieczne związki" — franc. film fab. W roli głównej Gerard Phillipe. (js)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 21 XII** — 7.35 Film fab. 13.30 Hokej. Finlandia — Kanada. 17.00 ZSRR — Czechosłowacja. 19.35 Koncert.
**Sobota 22 XII** — 14.30 Spektakl. 15.15 Nie do wiary. 16.15 Filmy animowane. 17.45 Film fab. 20.00 Koncert.
**Niedziela 23 XII** — 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 16.00 Panorama międzynarodowa. 17.00 Boks. Narciarstwo (Puchar świata). 18.00 Klub podróżników. 19.35 Film muzyczny.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Dramat na polowaniu — radz. 25—26. Poza prawem — czes. 27—28. Wielki sen — ang. 29—30.
**Bielsk Podl.** Sanchez i jego dzieci — mek. 24. Dzięki Bogu już piątek — USA 25—26. Pojedynek o południowy szlak — jug. 27—28. Jesienna sonata — szwedz. 29—30.
**Czeremcha** Test pilota Pirxsa — pol. 25—26. Jorg Rotbeg — NRD 29—30.
**Czyże** Mały książę — USA. Bestia — pol. 26—30.
**Gródek** Rozdroża — rum. 29—30.
**Hajnówka** Kryjówka — NRD 24—25. Mistrz kierownicy ucieka — USA 26—28.
**Michałowo** Powrót Robin Hooda — ang. 25—26. Policja przygląda się — wł. 27—28. Wesela nie będzie — pol. 29—30.
**Mielnik** Agnieszka idzie na śmierć — wł. 26. Koronczarka — szwedz. 29—30.
**Milejczyce** Superekspres w niebezpieczeństwie — jap. 26. Czym mogę służyć — czes. 29—30.
**Narew** Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. Każdy ma swoje piekło — fr. 26—30.
**Nurzec** Koniec wakacji — pol. 25—26. Stawiam na trzynastkę — czes. 27—28. Przygody Picassa — szwedz. 29—30.
**Orla** Bilet powrotny — pol. Niech się boi — czes. 26—30.
**Rajsk** Melodie białych nocy — radz. Przełomy Missauri — USA 26—30.




Дарагое Сэрцайка, я ў бацькоў адна, яны клапоцяцца пра мяне і хацелі б, каб мне было як найлепей. Мама мне ўсё гэта паўтарае. I на сілу хацелі б мяне аставіць на гаспадарцы. Гаспадарка ў маіх бацькоў добрая, маюць усялякія машыны, вялікія даходы, жывуць багата. Але мяне праца на гаспадарцы зусім не цікавіць. Я з маленства марыла, каб быць медсястрой. I хаця бацькі не хацелі, каб ішла я ў медыцынскі ліцэй, я яго закончыла. I вось працую. Споўніліся тут мае мары. I маю хлопца, які ўжо працуе. Пеця мне вельмі падабаецца. Быў ён і ў маіх бацькоў. I ім спадабаўся. Але, на няшчасце, умяшалася цётка, сястра маёй мамы. У яе вёсцы ёсць хлопец, які працуе на гаспадарцы. Яна і раней мне аб ім гаварыла. Я яго ведаю, бо не раз на забавах сустракаліся. Але ён мне абыякавы, тым больш, што я ведала, што ён не вучыцца і будзе працаваць на гаспадарцы. А цяпер цётка з ім пагаварыла, і ён сказаў, што ахвотна са мной ажаніўся б, бо я ўвесь час яму падабаюся, і прыйшоў да нас на гаспадарку. Вось і бяда. Мама ізноў узялася за мяне. Кажа: „Кідай тую працу, заўсёды з хворымі, выходзь лепш за Ёзіка і будзеце гаспадарыць“. Я і слухаць не хачу гэтых рад. I праз гэта дамоў мне ехаць не хочацца. Не была ўжо тры тыдні. I вось сёння субота, сяджу ў сваім пакоіку і падумала, напішу да цябе, Сэрцайка. Скажы, ці бацькі павінны аж так нахальна ўмешвацца ў справы сваёй дарослай дачкі. Бо мне здаецца, што крыўдзяць яны мяне.

Аня з Беласточчыны.

**Аня!** Бацькі заўсёды хочуць як найлепш свайму дзіцяці. Толькі часта празмерна якраз умешваюцца ў справы, нягледзячы, што ўжо гэтае дзіця з'яўляецца дарослым чалавекам і павінна якраз такую справу як выбар прафесіі вырашаць само. Вельмі важна, каб гэтая прафесія была згодна з зацікаўленнямі чалавека. Тады і ахвота будзе да тае працы і вынікі з яе. I тое, што цікавіць бацькоў, не мусіць цікавіць якраз і іх дзяцей. А цяпер у нашай краіне кожны малады чалавек мае магчымасці працаваць там, дзе мае ахвоту.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пасля смерці маці паўналетнія дзеці пражываюць разам з бацькам у дзяржаўнай кватэры. Бацька, горкая п'яніца, прыходзіць дамоў уначы і буяніць, пачынае сваркі, б'е пасуду. Спробы ўздзеяння на бацьку не памагаюць. Такія паводзіны бацькі перашкаджаюць дзіцяці ў працы і вучобе. Ці можна патрабаваць прымусовага высялення бацькі з памяшкання? Памяшканне было пры жыцці маці прыдзелена адміністрацыйнымі ўладамі бацьку.

АДКАЗ: Паводле закону, муж і жонка, якія супольна займаюць кватэру, з'яўляюцца наймальнікамі і тады, калі ўмова найму заключана толькі адным з іх. Закон прадбачыць таксама, што пасля смерці наймальніка асобы, яму блізкія, якія да яго смерці жылі разам з ім, уступаюць у яго правы, звязаныя з наймам памяшкання. Гэтым самым дзеці ўступілі ў правы маці і лічацца наймальнікамі. Калі хто ярка або настойліва парушае хатні парадак, або праз неадпаведныя паводзіны перашкаджае іншым у карыстанні з свайго памяшкання, то не толькі ўласнік дома, але і іншыя наймальнікі зацікаўлены ў захаванні спакою, могуць патрабаваць прымусовага высялення парушальніка хатняга парадку. Гэта адносіцца таксама да мужа і жонкі. Таму жонка мела права патрабаваць прымусовага высялення мужа, а пасля яе смерці права гэта перайшло на дзяцей.

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ: BONEY M.



## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, сніўся мне балаган у маёй хаце — у пакоях і ў кухні. Быццам бы атрымалі новую кватэру і парадкуем яе. Але ўсё адбываецца ў старой. I найбольш тут працуе мой муж. Палажыў новы дыван (жоўта-белы) на падлогу. I павесіў звісаючыя кветкі на сцяне і пад столлю. Яны папляліся пад столлю аж на паўпакоя. I на сценах іншыя кветкі павешаны, і на акне таксама стаяць вазоны. Прыйшла сяброўка да нас, села ў пакоі на крэсле, а каля крэсла стаяла торбачка з сланечнікавымі семечкамі. Яна іх ела. I ў яе пытаю, ці гэта добра, што пад столлю гэтыя кветкі на паўпакоя паплеценыя, ці не замнога іх. Але яна кажа, што нічога, можа быць. I яшчэ я падумала, што новы, чысты дыван забрудзіцца, пакуль мы ўсё ўпарадкуем, і, каб забяспечыць, палажыла на ім нейкі коц, ці якуюсь плахту. Яшчэ памятаю, што сцены ва ўваходным пакоіку муж выклеіў блакітнай паперай у падоўжныя палоскі. Што гэта ўсё абазначае?

Ліда

**Ліда!** Справа ясная: атрымаеш новую кватэру, бо балаган у хаце абазначае перамену кватэры. А ў сувязі з гэтым уся рэшта сну, звязаная з тваімі клопатамі аб кватэры — дыванамі, тапэтамі і г.д. Магу цябе пацешыць: кветкі абазначаюць, што ў новай хаце ўсё будзе добра.

## Куток практычных ведаў

# Як чысціць рыбу?

Перш за ўсё неабходна рыбу размарозіць, адрэзаць галаву, выпатрашыць, добра выпаласкаць. Можна таксама выразаць філе і зняць скуру.

Чысціць рыбу трэба ў спецыяльна выдзеленым месцы, каб не запэцкаць усю кухню. Факт, што месца такое павінна знаходзіцца недалёка ад крану. Але так, уласна кажучы, то марскую рыбу чысціць вельмі лёгка, паколькі яе толькі трэба дачысціць, а ўсю найбруднейшую работу робяць прамысловыя караблі.

Размарожваем рыбу ў посудзе з халоднай вадой, да якой можна дадаць солі (10 дэкаў на адзін літр вады). Размарожаную рыбу нельга ізноў замарожваць ці перахоўваць.

Галаву абразаем вострым нажом. Рыбу з галавой падаем толькі тады, калі для нас адыгрывае істотную ролю эфектны выгляд стравы.

Філе выразаем з мяса, пазбаўленага ўсялякіх не падыходзячых да яды часцей рыбы, а часта нават і скуры. Па абодвух баках хрыбта зразаем мяса ад хваста да галавы. Калі хочам зняць скуру з рыбы, то надразаем яе каля хваста ўпоперак, а пасля нажом пад скурай знімаем далікатна, так, каб яе не прарэзаць. Некаторыя гаспадыні вельмі любяць напіхаць у скуру фарш.

Рыба будзе смачнейшая, калі мы будзем яе саліць не сухой соллю, а перад падрыхтоўкай памочым яе мінут 15 у 20-працэнтным водным растворы солі. Такім чынам не соляць рыбу, якую падрыхтоўваюць на фарш.

**Гаспадыня**

БУГ У АГНІ

# МЫ СВАЕ...

Параілі мне наведаць Любу Млынарчук, якая жыве над Бугам у вёсцы Турна Малая.

— Яна ведала тых байцоў, што бараніліся ў дотах за Слохамі Аннапольскімі, нават есці ім насіла... — гаварыў інжынер Іван Ваўрэнцюк яшчэ летам 1979 года, у час нашай сустрэчы ў „Ніве“. Тое ж пачуў я ад яго дзядзькоў Аляксандра і Антона Палешчукоў з Турны Малой.

Люба Млынарчук з мужам Мішам (так яго называла) і ўнучкай Монікай заняты былі звозкай капусты з агарода. Папрасіў я яе ў хату, каб падключыць магнітафон. Калі выяснілася, з чым я да яе, яна рашуча заявіла:

— Не, далібог, не ўключайце гэтага свайго магнітафона! Я нічога вам не раскажу! Усё ўжо забыла. I расказваць мне няма пра што.

Я гаварыў, пераконваў.

Цётка Люба маўчала. Толькі яе твар гаварыў, як магнітафонная стужка. Відаць было, што перажывае, што ўспаміны вяртаюцца.

— Можа вам нагаварылі, што я тут... людзі маюць доўгія языкі... а я Богам клянуся...

Скрыпнулі дзверы. Увайшоў муж — Міхаіл Млынарчук.

— Вось яго пытайце, — заявіла хутка цётка Люба і прытуліла да сябе сваю ўнучку.

— Як бараніліся тут рускія салдаты? — паўтарыў маю просьбу дзядзька Міхась. — Здорава бараніліся. Я іх ведаў. Гэта ж мае аднагодкі. Яны стаялі за нашай вёскай у лесе, тут быў іх ваенны гарадок. Разам гулялі, на танцы хадзілі, наладжвалі спартыўныя спаборніцтвы, спявалі песні... Многа песень прывезлі сюды гэтыя рускія байцы: *„Катюша“*, *„Если завтра война“*, *„Мы свои, нам не надо родниться“*... Я памятаю гэтыя песні. Яны тады (і пазней) былі вельмі папулярныя.

*Мы свои, нам не надо родниться,*
*Мы одной богатырской крови.*
*Наш народ переходит границы*
*И выходит на встречу любви.*

Песня адлюстроўвала сапраўдныя думкі і пачуцці тутэйшых дзяўчат і юнакоў, сялян і сялянак. У асобах чырвонаармейцаў бачылі яны прадстаўнікоў улады, якая дазволіла „людзьмі звацца“.

У лесе між вёскай Турна Малая і Слохі Аннапольскія распалажылася тады 3 рота 17 асобага кулямётнага батальёна, якім камандаваў **А. І. Паставалаў**, а ротным камандзірам быў лейтэнант **Г. Г. Салаўёў**. Напярэдадні нямецкага нападу на граніцу яго выклікалі ў Брэст і ў доты над Бугам ён ужо не вярнуўся. Абавязкі камандзіра роты ўзяў на сябе малодшы лейтэнант **І. І. Шэўлюкоў**, а намеснікам па палітычнай частцы быў палітрук **В. К. Локцеў**, які фактычна ўзначаліў камандаванне абароны ў чатырох дотах між Слохамі і Турнай.

У архіве Міністэрства Абароны СССР захоўваецца дакумент, з якім можна таксама пазнаёміцца ў Брэсцкім музеі і які прыводзяць аўтары зборніка ўспамінаў „Буг у агні“. Гэта паведамленне камандавання **293 нямецкай пяхотнай дывізіі** аб баявых дзеяннях яе салдат у раёне вёскі Слохі.

*У адным доце ў лесе на захад ад рэчкі Камянка, — пішуць немцы, — быў узяты ў палон палітрук і згодна з загадам тут жа расстраляны. Гэты палітрук прыняў на сябе камандаванне ротай, а таксама і кіраванне падпарадкаванымі ёй дотамі... Дакладна ўстаноўлена, што гэты палітрук (...) быў душой супраціўлення праціўніка ў гэтым раёне.*

Гітлераўцы правідлова ацанілі заслугі смелага камандзіра. Удзельнік гэтых баёў, **Іван Нікалаевіч Шыбакоў**, камандзір аднаго з дотаў, баявы сябар палітрука, расказвае ў сваіх успамінах, што гэта палітрук Локцеў настойваў на тым, каб да канца выканаць сваю воінскую прысягу. Калі рашалася справа, ці пакінуць доты і прабівацца да сваіх, ці стаяць тут аж да смерці, палітрук Локцеў заявіў:

— Не дзеля гэтага пабудаваны доты, каб мы, байцы Чырвонай Арміі, маючы ў руках зброю, пакінулі іх ворагу.

Было гэта ў пятніцу 27 чэрвеня 1941 года, на пяты дзень вайны, калі ўсім воінам стала ўжо вядома, што не могуць разлічваць на хуткую дапамогу з усходу, калі згарэла вёска Слохі і ад куль ды ў агні загінулі шматлікія яе жыхары.

— Доўга яны тут бараніліся, — паўтарае дзядзька Міхаіл Млынарчук. — Я быў сярод тых, каго гітлераўцы ўзялі ў заложнікі. Нас трымалі на станцыі Сямяцічы. То яшчэ ў нядзелю і пазней прыганялі і прывозілі туды ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Некаторых з іх я пазнаў. Памятаю аднаго, па прозвішчу Плаксей...

Тут цётка Люба неяк палахліва паглядзела на свайго мужа.

Кулямётчык **Плаксей**. I я ведаў гэтае прозвішча. Сустрэў яго ва ўспамінах І. Н. Шыбакова. Ён двойчы адзначыўся геройскімі подзвігамі ў час абароны дотаў на Бугу.

Але чаму гэтае прозвішча яшчэ сёння знаходзіць нейкі асаблівы водгук у сэрцы цёткі Любы Млынарчук з вёскі Турна Малая. Чаму яна так неахвотна раскрывае тайны душы той маладзенькай дзяўчыны, якой была яна ў 1941 годзе? Аб гэтым наступным разам.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Цётка Люба Млынарчук з мужам Міхаілам і ўнучкай Монікай заняты былі ўборкай капусты...*

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЛІТАРАТУРНАЯ СУСТРЭЧА

21 лістапада 1979 г. бельскі Дом культуры наладзіў чарговую сустрэчу з беластоцкімі пісьменнікамі. Прыехалі да нас Сакрат Яновіч і Ежы Плютовіч.

Пачалося ад слова С. Яновіча. Слова пра яго крокі ў літаратуру. Камерны настрой залы спрыяў дэкламацыі на музычным фоне яновічавых лірычных мініяцюр з „Zapomnielisk". Аўтар, каб перадаць „слоўную атмасферу" мініяцюр, прачытаў некалькі тэкстаў у арыгінале з „Сярэбранага ездака".

Гэты клімат задуменнасці неяк спалучаўся з выступленнем Е. Плютовіча. Аўтар паэтычнага зборніка „Niegdyś to znaczy nigdy" запрапанаваў бяльчанам матэрыял з наступнага зборніка, які выйдзе ў свет вясной н.г. пад загалоўкам „Cienie i blaski albo ciepłe obrazki".

Плютовічаўская паэзія — глыбокія роздумы. Слова тут шматграннае, слова тут кожнае неабходнае...

Пасля цікавых выступленняў пасыпаліся шматлікія пытанні ад слухачоў. Глыбока ўвайшоў у нашую памяць гэты лістападавы вечар...

**Надзея Артымовіч**

## НЕ ПАШМАРУЕШ, НЕ ПАЕДЗЕШ

У апошні час тыя, што купілі сабе веласіпеды-складакі за 2600 зл., скардзяцца, што амаль усе часці ў веласіпедах не шмараваны з сярэдзіны, а найважнейшае, што не шмаравана цэнтральная частка, якая гоніць педалі. За некалькі тыдняў такой язды, шарыкі рассыпаюцца, лопаюцца. Пакупнік плаціць за веласіпед і не ведае (бо і аб чым жа тут ведаць?), што цэнтральная частка веласіпеда сухая, а павінна быць абавязкова пашмараваная. Нядбайныя майстры!

**М. Панфілюк**

## ДВА БАКІ ТОЙ САМАЙ МАНЕТЫ

У нядзелю 18 лістапада я апынуўся на прыпынку ПКП у Леўках каля Бельска, дзе ў белы дзень над аконцам пры касе гарэла электрычная лямпачка. Ва ўсёй аднак пачакальні было так відна, што без ніякіх цяжкасцей можна было лічыць грошы і без таго святла. Значыць, тут дыжурнаму руху трэба напомніць аб ашчаднасці электраэнергіі.

Затое ў Бельску ў той самы дзень а гадзіне 18 не было ніякага асвятлення над аконцам у касе, а ва ўсёй цёмнай бельскай пачакальні гарэла толькі адна лямпачка, схаваная ў тытунёвым дыме. І да яе трэба было бегчы чалавеку, каб палічыць за білет. Запытаў я касіршу, чаму ля аконца так цёмна сёння? Адказала: „Бо людзі выкручваюць лямпачкі".

**В. Семянюк**

(Працяг са стар. 5)

## АДКАЗ СТАНУЛЕВІЧУ

стракцыю? Ці ж гэты выбар можна лічыць наватарствам? Не. Гэтая паэзія ў тым рознаколерным лузе — спусташаючае пустазелле. Мо і па закону прыроды губіла яно нашы лугі, але цяпер адолелі мы яго, зааралі глыбока, каб не вылезла ніколі і света божага не бачыла. Дарма Станулевіч насміхаецца: маўляў, не пад сілу змагацца з законам прыроды. Я не адзінокі. Дарма надзяляць мяне суб'ектыўнасцю. Паэзія для мяне — гэта забаўка вольнага часу, якога ў маім жыцці заўсёды не хапае. Люблю выключна добрую паэзію і нізашто ў свеце не зыду з гэтай пазіцыі. Не ў маёй гэта натуры. На хрэн здалася мне модная плынь, гэткая брыдота. Гэтак думае і народ. Толькі не было адважных выказацца. Я не сцярпеў. Выказаў свае думкі, як умеў. Даказаў нашаму Парнасу, які (у постаці В. Шведа) лічыць нас, сялян, даўбешкамі, няздольнымі разабрацца ў сучаснай паэзіі, што разабраўся. Ведаў добра, на што іду, прадбачыў скуткі — нажыў праціўнікаў. Аднак не каюся. Дакажу народную рацыю. І з гэткім аб'ектыўным аптымізмам канчаю свой адказ.

**Дзядзька Квас**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Трагічны выпадак у Чаромсе. 3 снежня каля гадзіны 16 Тадэуш К. з Гайнаўкі ехаў праз Чаромху „Старам-200" п'яны. Стукнуў 13-гадовую Аліну з Чаромхі, якая загінула на месцы.

## ПРОСІМ ПАДУМАЦЬ

Мястэчка Орля разбудоўваецца. Суседнія даўней вёскі, як Міклашы і Кашалі, становяцца прадаўжэннем Орлі, як бы яе вуліцамі. Паблізу Міклашоў размясцілася арлянская СКР, магазіны ГСу, мясная, фабрыкі — кафлярня і бетанярня, пункт скупкі жывёлы.

Жыхары Орлі, ды і суседніх вёсак, рады, што так развіваецца раён. Толькі ў сувязі з развіццём растуць цяжкасці з даездам у Бельск і далей. Многа ж вучняў даязджае ў школу, а жыхары Орлі і суседніх вёсак патрабуюць ехаць таксама ў Гайнаўку і Беласток. Усе былі б вельмі рады і дзякавалі б, калі б дзяржаўная чыгунка насупраць вуліцы вёскі Міклашы зрабіла прыпынак для поезда, які едзе з Бельска ў Гайнаўку і наадварот. Тады б Орля зручна спалучылася б пры дапамозе ПКП са светам. Цяпер станцыя ад Орлі знаходзіцца ў трох-чатырох кіламетрах (Арлянка), ад вёскі Кашалі — 4-5 кіламетраў. Новай станцыі былі б рады і іншыя вёскі, напрыклад, Рудуты і Шэрні. На станцыю ў Міклашы ім было б бліжэй і зручней.

**М. Л.**

## ТРОХІ ГІСТОРЫІ З ЛЕГЕНДАЙ

Старэйшыя людзі ў Тафілаўцах Дубіцкай гміны яшчэ памятаюць, што пан у іх называўся Вэлевэцкі. Нават служылі ў яго. Панская сяліба змяшчалася на ўзгорку перад вёскай, едучы з Дубічаў Царкоўных, каля рэчкі. Яшчэ сёння знойдзеце тут цэглу і камення — рэшткі будынкаў.

Пан гэты, як кажуць, пахрысціў амаль усіх дзяцей у Тафілаўцах і падаваў прозвішчы залежна ад таго, да чаго былі здольны бацькі. Вось, напрыклад, некалькі такога роду тутэйшых прозвішчаў: Корч, Жубэр (відаць бацька быў моцны, як зубр), Ціхі, Дзіда, Рыбак, Жак, Топур, Пень, Роля, Кулік, Фурса (відаць, бацька задаваўся сабой. фурса — фанабэрыя). Гэтыя прозвішчы і па сённяшні дзень засталіся. Застаўся таксама яшчэ адзін выразны след гэтага пана, адно ўрочышча — палетак, якое называецца Вэлевэччына, гэта між Дубічамі Царкоўнымі і Тафілаўцамі. Кажуць яшчэ, што перад смерцю, ці перад выездам пан гэты свой скарб утапіў непадалёк сваёй сялібы ў бяздоннай крыніцы, дзе і цяпер яшчэ дрыгва і ніколі яна не засохне. Пакуль што ніхто не знайшоў гэты скарб.

Таксама ў Грабаўцы жыў пан, толькі ніхто яго не помніць, нават яго прозвішча. Помняць толькі, што жыў таксама на ўскраіне сяла Дубічы Царкоўныя, на ўзгорку, дзе і цяпер сяляне выворваюць плугам і выкопваюць лапатамі рэшткі фундамента — цэглу і камень. Пан гэты, мабыць, быў удзельнікам студзеньскага паўстання, бо яго маёмасць ужо даўно падзялілі паміж сялянамі з Грабаўца і Дубічаў Царкоўных. З „мяцежнікамі" цар не патычкаваўся.

**М. Панфілюк**

## УЖО ЕЗДЗІМ!

У 41 нумары „Нівы" ад 14 кастрычніка гэтага года была мая заметка, што ў Гайнаўцы вось-вось будзе гарадская камунікацыя. І вось ужо хачу падзяліцца той радасцю, якую перажывалі жыхары горада Гайнаўкі 9 лістапада. У гэты дзень адбывалася гарадская выбарная канферэнцыя ПАРП і была адкрыта першая аўтобусная лінія, якая ахапіла паўгорада. У восем гадзін раніцы на пляцы каля гарадскога ўпраўлення сабралася многа народу. Адсюль рушыў першы аўтобус, а ў ім першыя пасажыры. Трэба сказаць, што яшчэ ніводзін горад у Беластоцкім ваяводстве не мае гарадской камунікацыі. Першым была Гайнаўка. Мы разлічваем, што праз год будуць наступныя аўтобусы і другая лінія, якая ахопіць астатнюю частку горада. Гайнаўская МПК не наракае на недахоп пасажыраў.

Вялікая ўдзячнасць належыцца ваяводскім уладам, што рэалізавалі справядлівыя пастулаты гайнаўскага гарадскога кіраўніцтва і ўсіх жыхароў.

**Э. Вайсковіч**

**Ад рэд.** Шкада, дарагі карэспандэнт, што не напісалі вы, якімі вуліцамі праязджае ваш першы аўтобус. Гэта ж важна для кожнага, хто да вас прыедзе. Чакаем гэтага папаўнення ў наступнай інфармацыі.

## НЕ ГОРШАЯ АД ІНШЫХ

Вёска мая называецца Стараберазова. Назву мае старую, а жывецца ў ёй па-новаму, хаця ў час вайны два разы была спалена. Цяпер гэтага не відаць. Залячыла свае раны. А ўсё дзякуючы працавітым людзям. Яны ж ведаюць, што працуюць сабе, сваім дзецям.

Ведаеце, цяпер вёскі не пазнаць. Мноства ўжо домікаў красуецца пабапал вуліцы. Паставілі іх людзі пасля вайны. Ёсць некалькі асабнячкоў двухпавярховых, якія не прынеслі б ганьбы і ў горадзе. Вуліца агароджана прыгожымі платамі. А вечарам асвятляецца, як сапраўдны горад. Некалькі калдобін толькі засталося пасля дрэнацыі, яны перашкаджаюць самаходам. Калісьці гэта направіцца. Сяляне жывуць з году ў год багацей. Тэлевізараў у вёсцы ўжо не палічыць. Амаль на кожнай хаце антэна. Вёска мае 23 легкавыя машыны, 33 уласныя трактары. Сельская гаспадарка развіваецца нядрэнна. Некалькі гаспадароў маюць карты спецыялістаў, займаюцца гадоўляй хатняй жывёлы і вырошчваннем збожжавых культур.

Праз вёску праязджае аўтобус. У адным яе канцы ёсць чыгуначны прыпынак. У другім пралягла шаша, па якой ездзяць аўтобусы Гайнаўка-Бельск. Даедзеш, куды захочаш. Выйшла з вёскі многа адукаваных людзей. Многія даязджаюць на працу ў Гайнаўку і Бельск. Тыя, што засталіся на гаспадарцы, працуюць дбайна. Вынікі іх працы відаць на кожным кроку. Аб некаторых найлепшых трэба было б напісаць у „Ніву".

**Г. Мароз**

**Ад рэд.** А калі ж напішаце?




* ✲ *

Зацікавіў мяне ліст з „Нашай пошты" К. Чабатара з Аўстраліі, у якім ён расказвае аб нерэгулярным атрымліванні „Нівы", а таксама, што мог бы напісаць пра Аўстралію ў „Ніву".

На тое, што „Ніва" даходзіць у Аўстралію са спазненнем, відаць, няма лякарства — далечыня. А вось матэрыял з Аўстраліі зацікавіў бы многіх нашых чытачоў. Гавораць жа, які прыгожы краявід там! Мы маглі б больш даведацца непасрэдна ад нашага чытача. Мы ведаем, што нашы землякі-беларусы рассеяны па ўсім свеце. Кожны з іх мае свае радасці, смуткі, сем'і. І напэўна і аб гэтым К. Чабатар хоча падзяліцца з чытачамі.

А ці ж нельга весці ў „Ніве" хоць кароценькага замежнага аддзела, калі „Ніва" ўсюды даходзіць? Варта падумаць аб гэтым. Я б адказаў: пішыце, паважаны К. Чабатар, ахвотна пачытаем.

**М. Панфілюк**

* ✲ *

*Наш чытач з Калабжэга Дзмітры Слізень напісаў водгук на артыкул Віктара Рудчыка пад загалоўкам „А крыві салдат не шкадаваў", „Ніва", № 35 ад 2.IX.79 г., у якім закідае аўтару некаторую неаб'ектыўнасць. Ніжэй прыводзім адказ Віктара Рудчыка.*

Не вельмі разумею, адкуль у вас узніклі меркаванні, што я быццам бы не даацэньваю геройства і ахвярнасці польскіх салдат. З нагоды саракавой гадавіны вераснёвай кампаніі „Ніва" памясціла тры мае артыкулы. Усе яны якраз усхваляюць подзвігі воінаў Польскага Войска, бо сапраўды, „салдат крыві не шкадаваў", як гаворыцца ў загалоўку аднаго майго артыкула.

Адначасова факт застаецца фактам, што краіна да вайны не была падрыхтавана, а супярэчлівыя загады вярхоўнага камандавання толькі паскорылі вераснёвую трагедыю. Гэтага з гісторыі мы не выкінем. Тым больш трэба нам звяртацца да ўспамінаў тых людзей, якім лёс дазволіў застацца яшчэ ў жывых, такіх, як зусім ужо хворы Яўхім Вярба з Бельска, бо іх ужо ўсё менш і менш...

З вашага лісту магу меркаваць, што і вы ваявалі. Можа захацелі б падзяліцца ўспамінамі?

**Віктар Рудчык**

## СПЕЦЫЯЛІСТЫ З ЧЫЖОЎСКАЙ ГМІНЫ

Звярнуўся я да кіраўніка сельскагаспадарчай службы ў Чыжах Івана Янцэвіча, каб ён паінфармаваў нас аб спецыялістычных гаспадарках на тэрыторыі сваёй гміны. Такіх гаспадарак у гміне 42. І спецыялізуюцца ў розных напрамках. Маладое быдла на мяса гадуе 6 гаспадароў, малочных кароў разам з маладняком таксама 6 гаспадароў, толькі малочных кароў гадуюць 4 гаспадары, свінагадоўляй займаецца 5 гаспадароў, авечак гадуе 1, пчалаводствам займаюцца 2 гаспадары — гэта дзве вялікія пасекі, вырошчваннем алейных раслін займаецца 8 гаспадароў, а бульбу гадуюць 4 гаспадары. Насенне вырошчваюць 3 гаспадары, лён і каноплі — 2 гаспадары, а раннюю гароднііну вырошчвае 1 гаспадар.

Наступных 17 гаспадароў у гміне таксама пяройдуць на спецыялістычныя гаспадаркі. А вось яны — гаспадары з Чыжоўскай гміны, якія ў свае гаспадаркі ўвялі сучасныя метады гаспадарання: Мікалай Карпюк і Сяргей Заброцкі з Вулькі; Яўген Грыгарук, Кастусь Заброцкі, Іван Насута, Язэп Васілюк, Антон Дзмітрук, Уладзімір Заброцкі і Рыгор Артэмюк з Курашава; Яўген Заброцкі, Уладзімір Пліс, Іван Давідзюк, Пётр Заброцкі, Аляксей Саўчук, Уладзімір Заброцкі, Мікалай Магрук са Збуча; Антон Янцэвіч і Цімафей Банькоўскі з Лушчоў; Фёдар Мароз і Аляксандр Ярмоцюк з Каменя; Васіль Астапчук, Кастусь Філіманюк, Іван Сцепанюк, Іван Астапчук, Мікола Сцепанюк, Васіль Гаўрылюк з Чыжоў; Васіль Якімюк з Сапава; Чэслаў Нявінскі і Мікола Іванюк з Асоўкі; Лявон Яканюк з Шастакова; Уладзімір Тапалянскі, Уладзімір Ільяшук, Пётр Фірсюк, Мікалай Ільяшук і Аляксандр Сідарук з Клейнік, Мікалай Раманюк, Аляксей Раманюк, Аляксандр Назарук, Рыгор Асіпюк з Койлаў; Іван Яканюк, сын Івана, з Лянева; Аляксей Нікалаюк з Гукавіч; Мікалай Шышкевіч з Падрэчан.

**Э. Вайсковіч**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „КАЛІ ЯГО АДКРЫВАЮЦЬ?" „Ніва" № 42 (1234) ад 21.10.79. г.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" w GRÓDKU.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Kiedy go otwierają?" Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Gródku informuje, iż Klub Rolnika we wsi Bielewicze działał do dnia 19.08.1976 r. W związku ze zrezygnowaniem dotychczasowej osoby, prowadzącej powyższy klub, są trudności w pozyskaniu nowej osoby i dlatego klub w obecnej chwili jest zamknięty. Pomimo napotykanych trudności, Zarząd Spółdzielni czyni nadal starania w celu pozyskania osoby i prowadzenia działalności kulturalnej w Klubie Rolnika we wsi Bielewicze.

Wiceprezes d/s handlu
(Arkadiusz Sawicki)

**Да публікацыі „БОЛЬШ ЗАЦІКАЎЛЕННЯ", „Ніва" № 36 (1228) ад 9.09.79 г.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W CZEREMSZE.**

W odpowiedzi informuję, że po rozpatrzeniu sprawy Ob. Sawczuk Anny zam. Kuzawa 37 gm. Czeremcha przyznano jej zasiłek jednorazowy celowy na zakup odzieży w wysokości 1500 zł. (słownie: jeden tysiąc pięćset złotych) w m-cu listopadzie 1979 roku, zgodnie z wydaną decyzją z dnia 14 listopada 1979 roku znak: 9141/65/79.

Jednocześnie nadmienia się, że Obywatelka w chwili obecnej znajduje się przejściowo w trudnej sytuacji życiowej. W przypadku zakwalifikowania Ob. Sawczuk Anny do stałych lub okresowych podopiecznych, trzeba będzie skierować dzieci do Sądu o alimenta.

Wz Naczelnika Gminy
(—) M. Kulik
Sekretarz Biura

**Да публікацыі: „ШКОЛЬНІКАЎ БОЛЬШ, ЗНАКАЎ МЕНШ" „Ніва" № 41 (1233) ад 14.10.79 г.**

**Адказвае: REJON DRÓG PUBLICZNYCH W SOKÓŁCE.**

W związku z opublikowanym artykułem „Uczniów więcej, znaków mniej", dotyczącym braku znaków ostrzegawczych I-17 „dzieci" przy szkołach we wsi Babiki, Rejon Dróg Publicznych w Sokółce uprzejmie informuje: — krytyka w tygodniku „Niwa" była słuszna odnośnie szkoły, z której teren wyjścia oddalony jest w mniejszej odległości jak 30 m od krawędzi jezdni i ustawiony był tylko jeden znak I-17, a drugi wraz ze słupkiem odrzucony poza koronę drogi przez nieznanych sprawców. Znaki powyższe zostały wymienione na nowe i ustawione przy w/w szkole.

Odnośnie braku znaków przy drugiej szkole w tejże wsi, której teren wyjścia oddalony jest ponad 30 m od krawędzi jezdni, zgodnie z pkt. 2.2.13 instrukcji o znakach i sygnałach na drogach, zatwierdzony Zarządzeniem Ministrów Komunikacji, Gospodarki Terenowej, Ochrony Środowiska i Spraw Wewnętrznych z dnia 16 grudnia 1974 r. (Mon. Pol. nr 42 poz. 264) znaków I-17 nie należy ustawiać.

I Z-ca Dyrektora d/s Utrzymania
inż. Czesław Onoszko

